● ЗНАК БЕДЫ

# ПУТЕШЕСТВИЕ В «СТОЛИЦУ» СПИДА

(Начало в № 41).



## Как все начиналось

В начале 80-х, когда в Светлогорске "засветились" несколько наркоманов, никто не мог представить, какую скорость может набрать распространение наркотиков среди молодежи. Пока местные власти бились с афганскими и чернобыльскими последствиями, наркоманы времени не теряли, и уже к концу 80-х счет в городе их шел на тысячи.

Главная вина властьпридержащих в том, что никто не придал наркомании особого внимания и что сама проблема — замалчивалась. Как же! Советская молодежь — и наркоманы. Легкость, с какой светлогорская молодежь садилась "на иглу", обусловливалась еще и тем, что наркотик элементарно изготовлялся в домашних условиях. Мак (а именно маковая соломка стала главным потребляемым "зельем") рос почти во всех огородах окресностей Светлогорска. О СПИДе же если и слышали, то очень смутно; одним шприцом пользовались целый месяц и то шел он на всю компанию, состав которой бесконечно менялся.

Ситуация была полностью бесконтрольна, и когда в 1986 году Светлогорск захлестнула волна заболеваний гепатитом (желтуха), сепсисом — а счет больных шел на сотни! — местные врачи ломали голову — откуда? А шло все от нестерильных шприцов, и по сути дела этот взрыв заболеваний был первым звонком — опомнитесь!

В конце 80-х спрос и цена на наркотики резко возросла. Тогда милицей стал повсеместно уничтожаться мак — из которого делается опиум. Маковую саломку стали возить из окрестностей, к делу подключились цыгане, быстро почувствовавшие легкие деньги. В окрестных лесах разбивались участки, где засаживался мак, в лесу и варили опиум. "Партизанские" облавы органов правопорядка особого результата не давали и не дают.

И сегодня в каждой урне Светлогорска можно увидеть использованные шприцы (которыми, не дай Бог, случайно может уколоться любой). Каждый наркоман вам укажет с десяток точек в городе, где вы можете легко купить "дозу" за 150 тысяч рублей. Вообще, проблема наркомании в Светлогорске и осталась бы локальной проблемой, если бы пару лет назад не "повязали" в Минске двух светлогорских наркоманов и не проверили их на ВИЧ...

*А. ГОРБАЧ.*

**(Продолжение следует).**

● КОНКУРС "НАШ ДОМ — БЕЛАРУСЬ"

*Добры дзень, паважаныя арганізатары конкурсу "Наш дом — Беларусь"!*

*Піша вам сям'я Осіпавых. Прачыталі ў "Газеце для вас" аб аб'яўленым Бярозаўскай суполкай ТБМ і вашай газетай конкурсе і вырашылі прыняць удзел. Шчыра кажучы, родную беларускую мову я, Осіпава Валянціна, к свайму сораму ведаю ўжо дрэнна. Але мне хочацца, каб мае дзеці ведалі яе лепей, і спрабую іх прывучаць да роднай сваёй мовы, нягледзячы на тое, што бацька ў іх рускі. Кожнае лета дачка Ліля (3 клас) і сын Дзіма (6 гадоў) праводзяць у дзядулі з бабуляй у Расіі, гавораць там на рускай мове, але яны лічаць беларускую мову сваёй роднай мовай і цікавяцца гісторыяй Беларусі.*

*На ваш суд я аддаю свой вершы.*

*З павагай да вас,*
*Валянціна, Андрэй, Ліля, Дзіма ОСІПАВЫ*
*(г. Бяроза).*

## БЕЛАЯ РУСЬ

Край мой бацькоўскі! Дзе знайсці словы,
Каб уславіць тваю прыгажосць? —
Сціплую стрыманасць бора яловага,
Стромкіх бярозак пяшчотную млосць.

Летніх лугоў і палетак узоры,
Траў сарамлівых дурманячы пах,
Срэбную гладзь ізумрудных азёраў,
Ніў каласістых паважны размах.

Край мой любімы! Белаю Руссю
Людзі цябе называюць спрадвек.
І не замуцяць нязграбныя хлусні
Чысты твой позірк з-пад стомленых век.

Горда стаіш ты ў белай сукенцы
На скрыжаванні важнейшых дарог.
Меч паднімалі не раз чужаземцы,
Глянуўшы сквапна на здобны пірог.

Шмат табе выпала выпрабаванняў —
Часта завітвала ў госці бяда.
Ты не зганджалася з парабаваннем —
Кроў не аднойчы лілась, як вада.

Пакаштаваць давялося прыгонным.
Годы да неба даносіўся стогн.
Але ж была ў цябе і "Пагоня"
Раны не раз перапалічваў тэўтон.

Слаўны народ наш мінулым далёкім —
Мужна змагаўся з фашысцкай чумой.
Грохат баёў залятаў за аблокі,
Травы і дрэвы раўняліся з зямлёй.

Доўга залечваў балючыя раны
Зноў і з руін падымаў гарады.
Ведаем з кніг ды са слоў ветэранаў
Як было цяжка ў тыя гады.

Працай руплівага майго народа,
Слаўлай яго я заўжды ганаруся.
З верай, што мы пераможам нягоды,
Хочацца ўсклікнуць — жыве Беларусь!

*В. ОСІПАВА.*

● ТОЧКА ЗРЕНИЯ

# "Пайшла, ніколі ўжо не вернецца?.."

В этой солидной компании в г. Санкт-Петербурге я оказался неслучайно: отмечалось 35-летие моего шурина, мужа старшей сестры. Состоящая из семейных пар компания (интеллигентного вида мужчины и раскошные дамы) отнеслись ко мне довольно благосклонно.

Евгений (так зовут моего шурина), хлопая по гитаре ладонью, предложил всем нам спеть. Высокий брюнет Володя Пестерев, врач-стоматолог, друг Евгения, сел за пианино. Когда же прозвучали первые аккорды, я оторопел: песня была на белорусском языке:

***Бывай, абуджаная сэрцам,***
***дарагая.***
***Чаму так горка,***
***не магу я зразумець.***
***Шкода заранкі мне,***
***што ў небе дагарае***
***На ўсходзе дня майго,***
***якому ружавець...***

— ...Песни хорошие у вас, — обратилась ко мне жена Пестерева, миловидная шатенка. — Какие лирические! Под эти песни и проходит моя... наша молодость. Ваши "Песняры"... Да! Спасибо им! Вот и язык белорусский немножко изучили по этому случаю.

— Да вот только в Беларуси его не услышишь, — промолвил Евгений, перебирая струны и настраивая гитару. — Был я там в прошлом году. Не понаслышке знаю...

Все замолчали, как будто вежливо предлагая мне самому что-нибудь сказать на этот счет.

И я не смолчал:

— А что делать? У нас такое руководство страны, что "на каком языке хто хатит, так и гаварыт". Да еще и референдум...

— А при чем здесь, собственно говоря, референдум, — спросила Марина, самая, пожалуй, шикарная дама из всех сидящих. Простая, высокая прическа, пышная грудь да черные глаза, смотревшие, правда, довольно строго.

— Ну как причем, — возразил я. — Если руководство страны так относится...

— И кто ж мешал вам, белорусам, проголосовать против, — улыбаясь, спросила красивая Марина, обезоруживая то ли красотой, то ли логикой слов. — У вашего Президента есть законное право проводить любые референдумы...

Сорвались звуки пианино, знакомо брякнула гитара.

***О колькі раз хацеў я назначыць***
***ёй спатканне,***
***О колькі раз хацеў я***
***прызнацца ёй у каханні...***

Пели еще песни старых "Самоцветов", "Синей птицы", возвращались опять к репертуару "Песняроў". Под действием вина я не чувствовал себя ни подавленным, ни угнетенным, с охотой растолковывая петербуржцам непонятные для них белорусские слова.

...Присев возле красивой Марины и заговорив с ней, я обратил ее внимание на то, что на референдуме я голосовал за родную мову. Она лишь равнодушно пожала плечами.

***Пайшла, ніколі ўжо***
***не вернецца Алеся.***
***Бывай, каханая, любімая,***
***бывай.***
***Стаю на ростанях былых,***
***а з паднябесся***
***Самотным жаўранкам імчыць***
***і плача май.***

Такие песни пела компания молодых россиян на Васильеостровской улице г. Санкт-Петербурга. Что остается спеть нам — белорусам? Пра родную гісторыю, спадчыну, мову — "...пайшла, ніколі ўжо не вернецца...?"

*А. ГОРБАЧ.*

● КОНФЛИКТ

# СОСЕДЕЙ НЕ ВЫБИРАЮТ

Но уж если попадется сосед "не в масть" — держись, новосел! Душу вымотает, нервы истреплет. И ничего не докажешь, ничем не уймешь. Будь ты трижды прав.

...В отцовском доме по ул. Калинина, 48 в Барановичах живут два брата и сестра. С семьями. Дом полюбовно разделен. Земельный участок (около шести соток) обрабатывали и собирали с него урожай тоже мирно.

Один из братьев решил свою часть жилья продать. Его дело. Совет вместе держали. Чтобы оформить сделку купли-продажи, нужно документы привести в порядок. Новый жилец потребует своей доли земли, резонно рассуждала семья. А, согласно закону, ему причитаеться львиная доля — свыше четырех соток. Жаль отцовскую землицу отдавать. И порешили схитрить. При оформлении акта на землепользование указать "добровольное" желание братца иметь сто семьдесят квадратных метров. Остальные — в пользу двум сородичам. Сказано — сделано.

Супруги Шпак — покупатели, не заметив г[illegible] воха, уплатили день[illegible], вселились. Зажили на новом месте. А тут и весна пришла. Пора подумать про огород.

— Ни метра не уступлю! — заявила совладелица Нила Денищик. — Сто семьдесят метров — ваши. А в них входят отмостка, дорожка, въезд. Под овощи пятачок остается на двадцать корней картофеля.

Новые хозяева проконсультировались где надо — положено не менее четырех соток пропорционально занимаемой жилплощади.

— Еще чего! — уперлась Денищик. — Отцова земля!

Шпак — в исполком. Изучив суть, местная власть выносит реше[illegible]е номер 411 от 17.03.1[illegible] г: отдать четыре сот[illegible]. Денищик слушает, читает бумаги, приносимые семьей Шпак, и... торопливо засаживает весь участок. На план бюро технической инвентаризации только принебрежительно махнула рукой. Над увещеваниями участкового милиционера посмеялась. Суд? — он мне не указ, предупредила угрозу строптивая хозяйка.

Да... Не найдя поддержки ни в БТИ, ни в исполкоме, ни в милиции, Надежда Егоровна Шпак решила обратиться в суд. Будет толк или нет, а весенние сроки посева и посадки истекли. Взаимоотношения между соседями накалились. Как бы за вилы не взялись. А все потому, что власть не хочет свою власть употребить и отрегулировать конфликт. Тем более, что все ясно, как на ладони. Но не хочет. И снижает свой авторитет, позволяя взбалмошной женщине куражиться над людьми, игнорировать законные решения исполкома и его подразделений.

Можно ли говорить о правовом государстве, если законы попираются не только в разных эшелонах власти, но и рядовой горожанкой? Безнаказанно.

*П. НАГНИБЕДА.*

● СЛУЖБА 01

# ЁСЦЬ ПЕРАМОЖЦЫ, АЛЕ НІХТО НЕ ПРАЙГРАЎ

У Івацэвіцкім кінатэатры "Партызан" адбыўся трэці раённы конкурс юных знаўцаў пажарнай справы сярод чацвёртакласнікаў сярэдніх школ раёна. Заключнаму туру папярэднічалі шэсць занальных адборачных тураў, каманды-пераможцы якіх і павялі паміж сабой барацьбу ў фінальным спаборніцтве. Гэта каманды "Праметэй" СШ № 4 г. Івацэвічы (Івацэвіцкі гарадскі тур), каманда "СОС" Яглевіцкай СШ (Івацэвіцкі прыгарадны тур), каманда "Цілі Бом" Быценскай СШ (Быценскі тур), каманда "Агеньчык" СШ в. Заполле (Косаўскі тур), "Агеньчык" Аброўскай СШ (Святаволькі тур) і каманда "Полымя" СШ г. п. Целяханы (Целяханскі тур). Усе гэтыя конкурсы праходзілі па аднолькавых сцэнарыях з аднолькавымі для ўсіх конкурснымі заданнямі. Затое тыя заданні, якія склалі раённы конкурс, былі на многа складаней папярэдніх.

Перамогу ў гэтым спаборніцтве атрымала каманда "Праметэй" СШ № 4 г. Івацэвічы ў складзе Дашы Пакусінай (капітан), Віці Гойшыка, Сашы Юрасава, Юлі Зыбайла, Рамана Басалая і Славы Круцеля. На другім месцы апынулася каманда "Полымя" (Целяханская СШ). Рабяты з Запалянскай школы — каманда "Агеньчык" — завяршылі гульню трэцімі. Паколькі каманды "СОС" з Яглевіцкай школы і "Цілі-Бом" з Быцені атрымалі аднолькавую колькасць балаў, то яны падзялілі чацвёртае месца. Пятым прыйшоў да фінішу аброўскі "Агеньчык". Далей былі прывітальна-пахвальныя словы камандам-пераможцам, падарункі, Ганаровыя граматы. Заахвочаны таксама самыя актыўныя балельшчыкі і пераможцы гульні з гледачамі. Як зазначылі многія прадстаўнікі школ, на гэты раз дзеці былі літаральна завалены падарункамі і шакаладам. Набываліся прызы з дапамогай аддзела па справах моладзі райвыканкама, райкама Чырвонага Крыжа і шматлікіх спонсараў-прадпрымальнікаў: І. Кот, В. Цюцькоўай, А. Дарэшка, А. Канунікава і іншых.

*В. МОЛАШ,*
*ст. супрацоўнік ЦНППБ АВПС Івацэвіцкага раёна.*

ВАШЕ ЗДОРОВЬЕ

# Научитесь жить с аллергией, раз уж нельзя от нее излечиться

*Молодые родители пребывали в панике. Малютка-первенец, которого угостили фруктовым напитком, вдруг занемог: щечки залились пунцом, на руках выступила сыпь, слезы — не унять... Врач сразу же вызванной "Скорой помощи" заключила: экссудативный диатез. И предупредила: не увлекайтесь экзотическими продуктами. В наше время такие проявления пищевой аллергии не обходят большинство детей — уж больно много внешних раздражителей обрушивается на едва появившееся на свет создание. Об особенностях аллергических заболеваний у детей и способах противостоять им рассказывает заведующая II кафедрой педиатрии Белорусского института усовершенствования врачей, доктор медицинских наук профессор Людмила БЕЛЯЕВА.*

**— Людмила Михайловна, давайте представим такую ситуацию. Я, будущий отец, страдаю какой-либо формой аллергии и, естественно, не хотел бы "одарить" ею своего ребенка. Что Вы порекомендуете!**

— Видите ли, во-первых, ваше заболевание может и не передаться ребенку. Процент риска — где-то пятьдесят на пятьдесят. Но и эта доля вероятности, конечно, высока. Неспроста ведь сегодня до 10 процентов детей страдают аллергией в той или иной ее форме. Все аллергические реакции взаимосвязаны, имеют как бы общий знаменатель. Хотя у каждого из проявлений аллергии — свой провоцирующий фактор. У пищевой, к примеру, шоколад или белок куриного яйца; у поллиноза — пыльца цветущего дерева; у лекарственной — не переносимость ряда препаратов, чаще всего антибиотиков... Но на имунном уровне эти факторы действуют таким образом, что запускают один и тот же механизм. Механизм-то общий, но реакции, им вызванные, бьют по разным "мишеням" и имеют самые разные клинические проявления: от банального насморка до тяжелейшего бронхоспазма.

Так вот, у будущего отца я бы прежде всего спросила: как давно, в какой форме наблюдаются у вас аллергические проявления? Нарастают ли они с годами? Страдают ли этим заболеванием ваши родители и жена? А вы, к примеру, отвечаете: "Да нет, все вроде нормально, вот только с детства молоко не люблю". Стоит, мол, выпить молока — и начинает желудок барахлить, или, предположим, кожа чесаться. Выслушав это, я позволю себе заключить: дело не в том, что вы "не любите" молоко, а в том, что не можете его потреблять — ваш организм об этом и "говорит" вам. А потому, когда родится ребенок, не начинайте кормить его молочными продуктами: это может вызвать аллергическую реакцию.

**— Вы сказали: "не начинайте кормить..." Значит ли это, что позже, по мере взросления малыша, табу можно будет снять!**

— Вполне возможно. Знаете, есть такое выражение: "перерос болезни". Это явление довольно распространенное — исполнился год малышу, и диатез как рукой сняло. Хотя когда-нибудь — даже у взрослого человека — он может вновь проявиться, и самым неожиданным образом: в форме дерматита или экземы...

**— Выходит, один и тот же аллерген способен вызывать у ребенка и взрослого совершенно разные реакции!**

— Детская аллергия, конечно же, отличается от взрослой — в силу уже самих особенностей детского организма. Взрослый, учитывая его большую и физиологическую, и психологическую устойчивость, умеет локализовать болезненные проявления. Ребенку же это дается гораздо сложнее. Вдохнет пыльцу какого-то растения — и у него могут развиться тяжелейшие бронхоспазм, отек Квинке, крапивница. А у взрослого реакцией на ту же пыльцу будет, к примеру, вазомоторный ринит в виде насморка. И еще одна особенность: у детей чаще, чем у взрослых, наблюдается сочетание аллергических проявлений с тяжелой сиюминутной реакцией, которая требует подчас очень серьезных мер, вплоть до госпитализации.

**— И что же сегодняшняя медицина может противопоставить аллергии!**

— Дело в том, что аллергия — это группа заболеваний, с которыми надо научиться жить. Чтобы не выбиваться из ритма жизни, чувствовать себя полноценным человеком, надо постараться уменьшить количество обострений. Лучше принять меры профилактики, нежели потом бороться с последствиями. Поэтому, зная, что вашему ребенку предстоит контакт с аллергеном — ну, никак этого не избежать — дайте ему заблаговременно лекарство. Арсенал антигистаминных препаратов сегодня достаточно обширен, у каждого из них — свои достоинства и недостатки. Вам надо выбрать тот, который при максимуме эффекта даст минимум побочных действий. Проблема еще в том, что большинство антигистаминных препаратов надо принимать 2—3 раза в день; мало того, что это усложняет жизнь — принимаемые многократно, они обладают седативным (то есть снотворным) действием. Поэтому с полной ответственностью говорю: сегодня нет цены такому препарату, как кларитин — в плане и профилактики, и нейтрализации уже начавшейся аллергической реакции. Тем более, что для малышей кларитин выпускается еще и в виде фруктового сиропа. Уже через полчаса после приема этого лекарства начинается его действие, которое сохраняется в течение суток. И — никаких побочных эффектов!.. Имея такого помощника, как кларитин, научившись жить со своей болезнью, коль уж нельзя от нее избавиться, вы и ваш ребенок вполне впишетесь в сегодняшнюю жизнь, не будете ощущать себя обделенными.

**—Спасибо за эту познавательную беседу. Надеюсь, она поможет многим нашим соотечественникам.**

*Беседовал Владимир ВЕСЕЛОВСКИЙ.*

АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

# ХОЧАШ МЕНШ ПЛАЦІЦЬ, МЕНШ РАЗМАЎЛЯЙ...

*Мы — пенсіянеры. Маем тэлефон. Амаль нікуды не звонім. Часам дзеці або ўнукі дарвуцца, то ўжо пагавораць са сваімі знаёмымі. А прынясуць плату за месяц, то адкуль і набіраецца тая сума. Хацелася б даведацца, якая ж зараз плата за мясцовыя тэлефонныя размовы.*

*Аляксей Іванавіч, г. Івацэвічы.*

Як паведамілі рэдакцыі на раённым вузле электрасувязі, гарадскія жыхары, што маюць тэлефоны, на працягу месяца могуць размаўляць па тэлефоне ў межах свайго раёна адну гадзіну бясплатна. А вось звыш гэтай гадзіны трэба ўжо плаціць па 72 рублі за кожную мінуту.

Што ж, хочаш менш плаціць, менш размаўляй па тэлефоне.

Хаця і трэба плаціць за мясцовыя і міжгароднія перамовы, і за самую наяўнасць апарата, але колькасць жадаючых мець тэлефон дома не змяншаецца. Тэлефон сёння ў многіх выпадках не раскоша, а проста патрэба сям'і.

# Для дома, для семьи, для души...

ИЗ СЕМЕЙНОГО АЛЬБОМА



Свет мой, зеркальце, скажи...

ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

☞ Достаточно натереть салатницу чесноком и любой салат (кроме сладких, конечно) или винегрет приобретут аппетитный запах. А новый оттенок вкуса ему можно придать, если перед тем, как подать блюдо на стол, ненадолго положить в него лимонную корочку.

☞ Прозрачный мясной бульон приобретет особенно приятный вкус, если при варке в него положить кусочек сухого сыра. Помните, что из килограмма сырого мяса получается около 600 граммов вареного или 650 жареного.

☞ Сосиски не полопаются при варке или будут гораздо вкуснее, ароматнее, если их варить не в воде, а на пару.

ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО...

## Телеэкран об этом умалчивал

➤ Ведущий передачи "Взгляд" Александр Любимов никогда не был журналистом и за всю свою жизнь не сделал ни одной своей передачи. Однако он имеет много источников информации, среди которых и его отец — полковник КГБ.

➤ По словам одного из авторов и ведущих программы "Взгляд" Владимира Мукусева, после убийства Владислава Листьева стало известно, что на его арестованных счетах было обнаружено 16 млн. $ только в России, не считая недвижимости. Листьев входил в первую десятку самых богатых людей России. И это после работы во "Взгляде" с его сорокарублевыми ставками.

ИНТЕРЕСНО ЗНАТЬ

## А зевать, оказывается, полезно...

С помощью зевка организм пытается получить недостающий для головного мозга кислород и освободиться от углекислоты. Человек зевает при усталости, долгом пребывании в плохо проветриваемом помещении, недостатке движения и длительном сидении на одном месте. Зевать всегда хочется, когда в нашем присутствии зевает кто-то другой.

Зевание — бессознательный акт, однако его легко вызвать сознательно, если широко открыть рот и подержать его в таком состоянии. Ученые установили, что зевание может быть важным эмоциональным упражнением. Ведь в этом акте принимают участие мышцы ротовой полости, лица, шеи; их напряжение способствует росту скорости кровотока в сосудах головы. Вслед за напряжением занятых в акте зевания мышц наступает их расслабление, что очень полезно. Одновременно появляется чувство успокоенности. Кажется, что стало удивительно легко, всё внутри расслабилось, исчезли все заботы.

Зевок повышает тонус всего организма, улучшает кровоснабжение сердца, легких, за счет напряжения брюшной стенки выталкивает кровь из печени. Но целебность зевка удваивается, если он к тому же сопровождается положительными эмоциями. Если хорошо себя чувствующий человек зевает, то он еще более улучшает свое состояние. Если зевок сопровождается улыбкой, то, с одной стороны, усиливается расслабление мышц лица, а с другой — создается импульс положительных эмоций, направляемый в уже достаточно подготовленную мышечным расслаблением для его восприятия кору головного мозга.

ХОЗЯЙКЕ НА ЗАМЕТКУ

**Коктейль морковный.** Очищенную морковь (500 г.) натереть на терке, прибавить кипяченую воду (0,5 стакана), выжать сок, соединить его со взбитыми сладкими сливками (200 г.). Разлить коктейль в стаканы. Подать с печеньем или сухарями. При желании коктейль можно взбить в миксере.

КАЛЕНДАРЬ САДОВОДА И ОГОРОДНИКА

Растущая Луна 6, 7 и 8 июня до 19 ч. 34 мин. находится в очень продуктивном знаке Скорпион. Все три дня в рабочее время практически можно заниматься подсадкой, пересадкой всех "вершковых" растений, прежде всего плодовых — огурцов, помидоров. Все три дня полезны для полива и подкормки не только "вершковых", но и "корешковых" культур.

УЛЫБНИТЕСЬ

— Дедушка, а дедушка, а когда ты стал дедушкой?
— Когда родился ты.
— А если бы я не родился, ты бы не стал дедушкой?
— Конечно, нет.
— А что ты мне за это дашь, дедушка?

XXX

Мальчик первый раз в жизни отправился в школу. Родители ему купили портфель, учебники, вручили цветы для учительницы. Малыш вернулся из школы и возмущенно спросил:

— Что же вы меня не предупредили, что эта волынка на десять лет?

